

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№2 (166) СТУДЗЕНЬ 2014 ГОД


У ЦЭТРЫ ЎВАГІ

# АД НІЗКІХ ЗАРОБКАЎ ДА ДЭФІЦЫТУ КАДРАЎ

**На рынку працы Шумілінскага раёна свабодныя вакансіі прапануюць ў асноўным дзяржаўныя арганізацыі і прадпрыемствы. Як правіла, людзі неахвотна займаюць такія рабочыя месцы з-за невысокай заработнай платы.**

Паводле БелаПАН, навукова-даследчым эканамічным інстытутам (НДЭІ) Міністэрства эканомікі праведзена апытанне кіраўнікоў 429 сельгасарганізацый і фермерскіх гаспадарак з нагоды забяспечанасці персаналам. Як аказалася, сельгаспрадпрыемствы краіны адчуваюць хранічны дэфіцыт кадраў.

Толькі 49,4% рэспандэнтаў ацанілі ступень забяспечанасці кадрамі як здавальняючую. На сельгаспрадпрыемствах назіраецца дэфіцыт рабочых прафесій, а менавіта - механізатараў (іх недастатковасць адзначылі 56,2 % гаспадарак), аператараў машыннага даення (52,2%) і жывёлаводаў (50,9 %).

Разам з тым, паводле інфармацыі, размешчанай на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва (http://vacancy.mintrud.by), рынак сельскагаспадарчай працы ў Шумілінскім раёне сапраўды адчувае той дэфіцыт кадраў, аб якім паведамляе Мінэканомікі.

На сённяшні дзень рынак працы ў раёне налічвае 48 вакансій на 73 вольныя месцы. Прычым у сувязі з наяўнасцю ў раёне прадпрыемстваў і арганізацыяў не сельскагаспадарчага прызначэння ўсё ж такі асноўная колькасць вакансій прыпадае менавіта на іх. Да прыкладу, Шумілінскі лясгас можа прыняць на працу 19 спецыялістаў. Праўда, "Райаграсервісу" патрабуецца крыху меней – 16 чалавек. Райбыткамбінату не хапае 10 работнікаў, у раённай бальніцы ёсць вакансіі для 9 медыкаў, раённым аддзеле адукацыі на свабодныя пасады ўзапаршаюць 9 спецыялістаў.

Што ж тычыцца прадпрыемстваў сельскагаспадарчага профілю, то ў агульнарэспубліканскі банк даных была пададзена інфармацыя толькі з "Райаграсервісу".

Тут патрабуецца ўсяго адзін галоўны заатэхнік, адзін галоўны ветурач, два аграномы, два аператары машыннага даення, два жывёлаводы, два вадзіцелі, два трактарысты, нават адзін ідэолаг і іншыя.

Апроч таго, у раёне таксама не менш запатрабаваны і прадстаўнікі рабочых спецыяльнасцей: прыбіральшчыкі,вальшчыкі лесу, сантэхнікі, слесары, лесарубы, сталяры, токары.

Варта адзначыць, што памер заработнай платы на вакантныя прафесіі невысокі : у асноўным ад паўтара да 2,5-3 мільёны рублёў. Ёсць усяго адно выключэнне: аддзел алдукацыі Шумілінскага райвыканкама прапануе галоўнаму бухгалтару з вышэйшай адукацыяй аклад у 4 мільёны 100 тысяч рублёў. Аднак у той час педагог-псіхолаг будзе атрымліваць усяго 2,6 мільёна рублёў.

У сельгаспрадпремстве, бадай што, толькі аднаму галоўнаму заатэхніку ў "Райгарасервісе" абяцаюць аклад у тры мільёны рублёў. У астатніх заробкі больш, чым сціплыя – даярка атрымлівае 2 мільёны, жывёлаводы і трактарысты гэтаксама па два, а вадзіцелі яшчэ меней – 1 мільён 800 тысяч.

На думку спецыялістаў НДЭІ Мінэканомікі, для беларускіх сельгасарганізацый характэрная сёння высокая цякучасць кадраў, выкліканая нізкім узроўнем аплаты працы. Зыходзячы з наяўнай інфармацыі можна канстатаваць, што Шумілінскі раён таксама не адрозніваецца высокай заработнай платай сярод работнікаў і спецыялістаў сельскагаспадарчага профілю, а значыць – мусіць адчуваць кадравы голад, які можа і не фіксавацца ў даступнай шырокаму колу інфармацыі.

З улікам пастаяннай міграцыі працоўнай сілы за межы раёна, можна выказаць здагадку, што гэта праблема з цягам часу стане яшчэ больш актуальнай.

**Алесь Шумскі**

*ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY*

МЯСЦОВАЕ САМАКІРАВАННЕ

# ЧЫМ ЖЫВЕ ОБАЛЬСКІ СЕЛЬСАВЕТ?

**Асноўныя праблемы вёсак - водазабеспячэнне, рамонт дарог, асвятленне вуліц. Ці магчымая адміністрацыйная рэформа населеных пунктаў па заходнееўрапейскім стандартам? Пра гэта распавёў старшыня Обальскага сельскага Савета дэпутатаў Мікалай Будневіч.**

Обальскі сельсавет самы буйны ў Шумілінскім раёне, на яго тэрыторыі размешчана 39 населеных пунктаў, у якіх пражывае больш за 3,3 тыс. чалавек, з іх каля 2,5 тыс. – жыхары гарпасёлка, які даў назву сельсавету. Калісьці тэмп жыцця ў Обаль задаваў мясцовы керамічны завод, прадпрыемства і сёння застаецца горадаўтваральным, хоць ужо і няма мінуўшчыны размаху.

– Акрамя керамічнага завода, вытворчую сферу на нашай тэрыторыі ўяўляе вытворчы ўчастак «Полацкгаз» (раней – торфапрадпрыемства імя Даўмана), – кажа старшыня Обальскага сельскага Савета дэпутатаў Мікалай Будневіч. – Там працуюць больш за сотню чалавек, прадпрыемства мадэрнізуецца, набірае абароты, развіваецца. Ёсць лясніцтва, участак ЖКГ, а таксама аб'екты сацкультбыту – Дом культуры, два сельскіх клуба, участковая бальніца, два ФАПа.

– Вы ўзначалілі сельскі Савет у 2010 годзе. Гэта ваш першы вопыт работы на выбарнай пасадзе?

– Старшынёй – так. Але не першы, калі казаць аб прадстаўніцтве ў мясцовых органах самакіравання. Да гэтага ў мяне быў досвед працы дэпутатам раённага Савета.

– З чаго пачыналі старшынства? –

Са збору каманды. Мясцовае самакіраванне будуецца, па сутнасці, на грамадскіх пачатках. Вызначаюць яго дэпутацкі корпус – 5 дэпутатаў раённага і 13 сельскай Саветаў. Гэта касцяк, людзі, якія наўпрост заклікаіны вырашаць усе пытанні жыццезабеспячэння насельніцтва. Адказнасць іх вялікая: усё, што атрымалася, усе поспехі – іх заслуга, але ў той жа час, калі нешта сарвалася, нешта ўпусцілі – іх промах. Плюс старэйшыны вёсак і кіраўнікі прадпрыемстваў – апора мясцовай улады. І ў першую чаргу, хоць я і не новы ў Обаль чалавек, а свой, тут нарадзіўся, жыву і працую, трэба было з усімі сустрэцца, аб'ехаць вёскі, пагутарыць з людзьмі.

– Якія праблемы сельскіх населеных пунктаў сельсавета сёння найбольш вострa патрабуюць вырашэння?

– Я сказаў бы, што водазабеспячэнне. Для гарпасёлка ў мінулым годзе гэтая праблема была вострая, як ніколі. Больш за паўгода жыхары верхніх паверхаў у шматпавярхоўках былі практычна без вады, назапасіцца ёю маглі толькі ноччу, калі падаў агульны разбор.

Праблема была тэхнічная: выпрацавала рэсурс свідравіна і ўжо не спраўлялася з нагрузкамі. Рашэннем стала ўстаноўка новай свідравіны. Зараз задача нумар адзін па вадзе – будаўніцтва ў Обаль станцыі абезжалезвання. Работы вызначаліся на 2014 год, потым тэрміны зрушвалі, але мы прыкладзем усе намаганні, каб станцыя была пабудавана ў першапачаткова запланаванае час.

Ёсць складанасці і з водазабеспячэннем сельскіх населеных пунктаў. У нас восем вёсак падлучаныя да цэнтральнага водазабеспячэнню. З аднаго боку, гэта несумнеўнае карысць, з другога - бяда: як толькі нешта выходзіць з ладу, вёска застаецца без вады. Прасцей было б у малакольскасных населеных пунктах дэмантаваць вадапровад і ўсталяваць калодзежы: яны лягчэй ў эксплуатацыі, не патрабуюць вялікіх выдаткаў на абслугоўванне.

– Мікалай Аляксеевіч, з якімі праблемамі часцей за ўсё звяртаюцца людзі ў сельскі Савет?

– Калі казаць пра пытанні, якія трапілі на раённы ўзровень, то асноўны паток – гэта рамонт даху, дамоў, вуліц. У 2013 годзе адбыўся ўсплёск такіх зваротаў – на 18 больш, чым у 2012-м (47 супраць 29), і рост менавіта па пытаннях ЖКХ. Персанальна да мяне на асабісты прыём прыйшлі блізу 70 чалавек, на выязным - каля дзесяці. У вёсках людзі менш звяртаюцца ў тым ліку і таму, што многія праблемныя пытанні вырашаюцца, пакуль рыхтуецца выезд .

– На ваш погляд, якія ёсць рэсурсы для павышэння эфектыўнасці мясцовага самакіравання?

– Нярэдка вырашэнне пытанняў, з якімі прыходзяць людзі, цалкам ляжыць у сферы магчымасцяў прадпрыемстваў. А вось ўзаемадзеянне іх кіраўнікоў з сельскім Саветам кульгае. Калі дэпутат або старэйшына, як гаворыцца, з зубамі, ён дамажацца зняцця праблемы з парадку дня, хай і не з першага разу. Калі няма, то будзе доўга хадзіць па крузе. На шчасце, у нас такія выпадкі рэдкія, у 2013-м кампраміс знаходзілі заўсёды.

– Мікалай Аляксеевіч, на наступны тэрмін плануеце пазмагацца за дэпутацкі мандат?

– Плануў. Але вырашаць, вядома, людзям.

**Таццяна Гарнова**
**"Віцебскі веснік"**

БУДАЎНІЦТВА

# ЗАЗІХАЦЕЎ КУПАЛ

**На царкву, што будуецца ў Обалі, на днях устанавілі новы купал.**

Гэта адметная гістарычная падзея яшчэ на крок наблізіла адкрыццё храма для прыхаджан.

Храм, як кажуць, узводзяць усёй грамадой. Грошы ахвяравалі не толькі ўлады праз дзяржаўныя арганізацыі, але і прыватныя прадпрыемствы, вернікі, мясцовае насельніцтва навакольных вёск. Падобна на тое, што ў бліжэйшай перспектыве будаўнічыя работы будуць завершаны, і той час, калі ў храме пройдзе першая служба, зусім недалёка.

Галоўны купал быў выраблены з нітрыдтытану на адной з прыватных фірм горада Наваполацка. Такі вялікі купал памерам 6,5 на 6,5 метраў і крыж вышынёю 3,5 метра работнікі фірмы вырабілі ўпершыню.

Прыхаджане радасна віталі ўладкаванне купала, які цяпер зазіхацеў над Обаллю. Благачынны цэркваў Шумілінскага акругі Фёдар Пучынскі павіншаваў вернікаў са знамянальным святам і заклікаў усіх прысутных да веры ў Бога, цярпімасці і міласэрднасці. Святы айцец спадзяецца, што вялікі купал, асвечаны святой вадой, прынясе ўсім жыхарам здароўе і дабрабыт.

Зараз храм ў Обалі выглядае магутным і прыгожым. Нават недабудаваны, ён выклікае пачуццё захаплення і ўражвае сваёй велічнай прыгажосцю. Ёсць спадзяванні, што жыццё ў Обалі пераменіцца да лепшага: падзеленая радасць будзе двайны радасцю, падзеленае гора - паловай гора. У храме чалавек зможа улагодзіць сваё сэрца і, застаўшыся сам-насам з Богам, пачуць голас сваёй душы.

**Алесь Прыбярэжны**

ЖЫЛЛЁВАЕ ПЫТАННЕ

# РАСЦЕ ЧАРГА ПРЭТЭНДЭНТАЎ НА ВЫСЯЛЕННЕ

**На сённяшні дзень у Шумілінскім раёне пражывае 1345 неплацельшчыкаў. Некаторыя грамадзяне не плацяць за жыллё гадамі. Зараз на даўжнікоў рыхтуюцца дзесяць іскаў у суд на высяленне.**

Практыка высялення можа быць выкарыстана ў дачыненні да тых нядбайных кватэраздымшчыкаў, якія паўгода не плацяць за жыллё без паважных прычынаў. Безумоўна, камунальнікі і юрысты, што перад тым выселіць неплацёжаздольнага жыхара, папярэджваюць яго вусна і пісьмова.

Аднак калі не дапамагае звычайнае ўздзеянне, як наведванне на даму, тэлефоннае папярэджанне, хадатайніцтва па месцы працы, адключэнне камунальнай паслугі, тады ўжываюцца больш дзейсныя рычагі. Бо ў любым выпадку за аказанныя паслугі трэба плаціць.

Як бы там ні было, але высяленне неплацельшчыка з кватэры за даўгі – сапраўды крайні крок. Дарэчы, па рашэнні суда выселіць могуць і з прыватызаванай кватэры, калі ўласнік жылога памяшкання не плаціць за камунальныя паслугі ці абслугоўванне жылога памяшкання. Уласнік павінен на працягу года аплаціць доўг на працягу года.

Калі доўг не аплачаны, гаспадара перасяляюць у іншае жылое памяшканне, а кватэра прадаецца на таргах. З атрыманай сумы гасіцца доўг, а астатнія грошы перадаюцца быламу ўласніку кватэры. Пры гэтым высяленню падлягаюць не толькі наймальнікі жылых памяшканняў, але і усе члены сям'і, якія пражываюць з ім, нават непаўналетнія.

Спісы даўжнікоў за жыллё пастаянна павялічваюцца з года з год. Наколькі эфектыўны сродак уздзеяння на хранічных неплацельшчыкаў за жыллё, яе высяленне? Паводле даных жыллёва-камунальнай гаспадаркі у Шумілінскім раёне налічваецца 1345 неплацельшчыкаў. Лічба ўнушальная, улічваючы той факт, што ўсяго ў раёне наймальнікаў і карыстальнікаў жылля 8847 грамадзян.

Як звычайна, большасць нядбайных ўладальнікаў кватэр, якія рызыкуюць стаць патэнцыйнымі бамжамі, гэта тыя асобы, што вядуць асацыяльны лад жыцця. Злоўжываюць алкаголем, дэбашыраць у сям'і, турбуюць суседзяў амаральнымі паводзінамі, не жадаюць працаваць.

Да прыкладу, грамадзянін П., які атрымаў у свой час інтэрнат ад "Райаграсервісу", дзе працаваў, завінаваціўся за пакой аж з кастрычніка 2012 года. За гэты час доўг вырас да 1,6 мільёнаў рублёў. У судзе жыхар інтэрната даводзіў, што запазычанасць атрымалася з-за сціплага заробку. Аднак з бухгалтэрыі прадпрыемства даказалі, што зарплаты павінна было хапіць, подобна на тое, што работнік яе прапіваў, хаця выплаціў толькі частку доўгу. Аднак суд усё роўна не ўлічыў гэтыя абставіны і вырашыў выселіць мужчыну з пакоя.

З другім мужчынам адбылася падобная гісторыя. Пражываў як сужыцель з адной жанчынай, пакуль тая не набыла кватэру і не перасялілася туды жыць. А былы сужыцель так і застаўся ў пакоі адзін – без працы, без грошай, без права на жыллё. Судовай пастановай ён таксама быў выселены без прадастаўлення іншага жылога памяшкання.

Дарэчы, у такіх выпадку часовага безграшоўя кватэраздымшчыка можна звярнуцца за субсідыяй ці абмяняць вялікую кватэру на меншую. Аднак такіх кватэр меншай плошчы і горшых спажывецкіх якасцяў у райцэнтры пэўна ж няма. Для перасялення даўжнікоў рашэннем райвыканкама выдзелены дом № 6 па вуліцы Дубасарскага і некаторыя іншыя дамы увогуле без якіх небудзь камунальных даброт.

Бываюць і выключэнні. Адна шматдзетная сям'я, у якой абодва бацькі працавалі і атрымлівалі па мясцовых мерках, годны заробак, за кватэру не плаціла. Ці то грошай усё роўна не хапала ( цэны на месцы не стаяць), або спадзяваліся на дадатковыя льготы ад дзяржавы. Так або інакш, але трапілі на лаву падсудных. У судзе ім далі тэрмін на выпраўлене сітуацыі.

Вядома, калі чалавек не імкнецца да ўзорнага ладу жыцця і тым больш залівае яго гарэлкай, ён не вельмі турбуецца пра тое, што ў яго не аплачана па рахунках. Але ж трэба, каб людзі крыху дысцыплінаваліся. Таму каб прачнулася сумленне, і вырашаюць пытанне па даўгах у судовым парадку.

**Алесь Шумскі**

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

# УТВОРАНЫ ЎЧАСТКІ ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ

**Галасаванне на выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў у раёне будзе праходзіць на 32 участках. Участковыя камісіі будуць дзейнічаць на базе адміністратыўных будынкаў дзяржаўных устаноў, школ, прадпрыемстваў,сельсаветаў, Дамоў культуры, сельскіх клубаў, бібліятэк.**

У Шумілінскім раёне былі ўтвораны ўчасткі для правядзення галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў 27-га склікання.

На падставе артыкулаў 17, 18, 24 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь і па ўзгадненні з Шумілінскай раённай выбарчай камісіяй па выбарах дэпутатаў раённага Савета дэпутатаў дваццаць сёмага склікання Шумілінскі раённы выканаўчы камітэт вырашыў: утварыць 32 ўчастка для галасавання па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць сёмага склікання з указаннем межаў і месца знаходжання памяшканняў для галасавання.

Апроч таго, вызначаны месцы, забароненыя для пікетавання. У адпаведнасці з арт. 65 Выбарчага кодэкса Беларусі Шумілінскі райвыканкам прыняў рашэнне аб вызначэнні месцаў, забароненых для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў 27-га склікання (№9 ад 08.01.2014 года).

У пералік забароненых для пікетавання месцаў увайшлі чыгуначныя станцы, аўтавакзал, аб'екты вода-, цепла- і энергазабеспячэння, перакрыжаванні дарог і вуліц, тэрыторыі бальніц, палiклінік, амбулаторый, устаноў адукацыі, а таксама на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў райвыканкама, сельскіх выканкамаў, суда і пракуратуры.

**Алесь Шумскі**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ЗАДЫМЛЕННЕ Ў ПАКОІ

**У інтэрнаце Шумілінскага камунгасу спрацавала сістэма пажарнай сігналізацыі**

Гаспадыня пакоя, якая жыве ў інтэрнаце Шумілінскага ЖКГ, паставіла чайнік на электрапліту, а сама пайшла на вуліцу выбівацьдываны. За гэты час чайнік выкіпеў і задыміўся. У выніку задымлення ў пакоі спрацавала сігналізацыя і па выкліку прыбылі ратавальнікі.

На шчасце пацярлеплых не было, эвакуацыя жыхароў таксама не спатрэбілася.

Жанчына пражывае ў цесным пакойчыку разам з мужам. А вось 11-гадовае дзіця ў кастрычніку мінулага года з сям'і аднялі ў сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі пражывання.

Сямья тулілася на невялікай жылплошчы, дзе яшчэ і спрабавалі гатаваць ежу, што строга забаронена. За парушэнне правілаў пажарнай бяспекі жыхары пакоя будуць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

**Сяржук Горкі**

# ЗАБІЛІ САБУТЫЛЬНІКІ

**Труп са слядамі збіцця жыхара з пасёлка Обаль Шумілінскага раёна знайшлі на вуліцы ў п. Ждановічы ў Мінскім раёне.**

Паводле вынікаў судова-медыцынскай экспертызы смерць наступіла ад чэрапна-мазгавой траўмы.

Папярэдне ўстаноўлена, што цяжкія цялесныя пашкоджанні абальчаніну нанеслі 17 студзеня ў 21 гадзіну ў падвале жылога дома яго сабутыльнікі пасля сумеснага распіцця алкагольных напояў.

Паміж імі успыхнула сварка, пры гэтым мужчыну 1960 года нараджэння з Обалі збілі раней судзімы за крадзёж жыхар вёскі Караевічы Лепельскага раёна і жыхар вёскі Селішча Вілейскага раёна, якія затрыманыя. Усе яны былі непрацуючыя.

**Па зводках МУС**
**Сяржук Горкі**

# ЗГАРЭЎ АЎТАМАБІЛЬ

**Учора раніцай на вуліцы Зялёная адбыўся пажар аўтамабіля**

Паводле прэсс-службы Віцебскага ўпраўлення МНЗ учора раніцай у Шуміліне на вуліцы Зялёная адбылося ўзгаранне аўтамабіля.

Агнём знішчаны аўтамабіль "Фальксваген Джэта", 1985 года г. в.

Прычына пажару высвятляецца.

ДАДАТКОВАЯ АДУКАЦЫЯ

# ВЕК ЖЫВІ - ВЕК ВУЧЫСЯ

**У Цэнтры дзяцей і моладзі працуе праект "Адукацыйны цэнтр для дарослых".**

Тут сфарміравана пяць аб'яднанняў, дзе займаюцца выключна людзі дарослыя, а калі больш дакладна, то пенсіянеры. У іх шмат вольнага часу, а яшчэ больш – жадання навучыцца нечаму новаму.

Адукатар (так тут называюць выкладчыкаў) па саломапляценні Тацццяна Пятроўна Каласкова адзначае, што працаваць з гэтай аўдыторыяй прыемна і цікава. Яны апантаныя, зацікаўленыя і надзвычай старанныя. Ім падабаецца тое, што яны робяць, падабаецца бачыць вынік сваіх стараннаў.

"Гэтыя вучні ніколі не парушаюць дысцыпліны, –жартуе Наталля Леанідаўна Пятроўская (адукатар па батыку), – але дарослыя людзі задаюць дарослыя пытанні, таму рыхтавацца да заняткаў трэба грунтоўна".

Усе неабходныя для творчасці матэрыялы прадастаўлены праектам, але амаль усе удзельнікі самі набылі прылады і матэрыялы і працягваюць займацца творчасцю дома, у вольны час. Гэта сведчыць пра тое, што праект дае менавіта тыя вынікі, на якія спадзяваліся арганізатары.

**Я. Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ДАТА

# МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

**Міжнародны дзень роднай мовы адзначаецца штогод 21 лютага з мэтай узняць пытанні моўнай і культурнай разнастайнасці і шматмоўнасці. Гэта дата была ўпершыню абвешчана ЮНЭСКА 17 лістапада 1999 года. Адзначэнне гэтага дня было таксама прызнана Генеральнай асамблеяй ААН у яе рэзаюцыі 2008 года, якая абвяшчала гэты год Міжнародным годам моў.**

Міжнародны дзень роднай мовы паўстаў як вынік міжнароднага прызнання Дня руху за мову, які адзначаецца ў Бангладэш з 1952 года. У тым годзе шмат студэнтаў былі забітыя пакістанскай паліцыяй у горадзе Дака падчас пратэстаў, арганізаваных Рухам за мову бенгалі.

Мовы з'яўляюцца самым моцным інструментам захавання і развіцця нашай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Паводле ацэнак ЮНЕСКА палова з 6 тысяч моў свету могуць у бліжэйшы час страціць апошніх носьбітаў.

Усе крокі па спрыяння распаўсюджвання родных моў служаць не толькі садзейнічанню моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, развіццю больш поўнага знаёмства з моўнымі і культурнымі традыцыямі па ўсім свеце, але і мацуюць салідарнасць заснаваную на ўзаемаразуменні, талерантнасці і дыялогу.

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ - МАЙДАН

# Я ДУМАЛА ЗАСТАЦЦА ЎБАКУ…

**Ніколі я нічога тут не пісала, але цяпер не магу маўчаць. Тры гады я жыву ў Кіеве. Тры гады я хаджу па гэтых вуліцах, сябрую, працую і маю стасункі з гэтымі людзьмі. Маю стасункі не толькі з калегамі па працы, а з прадаўцамі, таксістамі, суседзямі, кансьержамі, домаўладальнікамі і бізнэсменамі … Я была ў Прыкарпацці і ў Закарпацці. І ні разу, чуеце, ні разу я не сутыкалася з непрыманнем рускіх ці яўрэяў, ні на бытавым, ні на грамадскім узроўні.**

З першых жа слоў мяне вызначалі ўсюды — «Вы масквічка? Па гаворцы чуваць». Спачатку я — паўяўрэйка-паўмаскалька — жудасна напружвалася, але пасля пагадзілася з тым, што я і праўда масквічка, і гэтая тэма больш не падымалася — калі я сама яе не развівала. Прыязны тон не мяняўся, нідзе ні разу не зрабілі выгляд, што не разумеюць маю рускую мову.

Так, у мяне былі праблемы, і як ні дзіўна, менавіта з калегамі — хоць нічога дзіўнага ў гэтым і няма. Свет тэлебачання — гэта свет, дзе ўсе мы працуем з «мовай». Але яшчэ гэта свет, дзе збіраюцца людзі з усёй краіны. Тут плячо ў плячо працуюць прыезджыя з Армянска (Крым) і з Івана-Франкоўска (Захад).

Так, многія, хто прыехаў з захаду, не вельмі ж ведаюць рускую — у іх яна была 2 гадзіны на тыдзень, як замежная, ды яна і праўда для іх замежная, бо, падабаецца нам, расейцам, гэта ці не, Украіна – гэта, як раней казалі,«заграніца».Так,наскрозь працятая асабістымі сувязямі, якія значна мацнейшыя за любыя грамадскія дамовы, але замежжа, са сваімі законамі, традыцыямі, мовай, гімнам і іншымі атрыбутамі самастойнай дзяржавы.

Так, нам з калегамі, напэўна, было цяжка спачатку: ім, не вельмі абазнаным у рускай мове, і мне, зусім не абазнанай ва ўкраінскай. Але мы вельмі стараліся адзін аднаго зразумець, і праз пару месяцаў я перастала вылупляць вочы, калі яны пераходзілі на украінскую хуткамоўку, а яны перасталі з задуменным выглядам спрабаваць перакласці ў галаве маю рускую мову.

І вось здарыўся ён — Майдан. З Масквы мне тэлефануюць сябры, сваякі і калегі. Яны ўсе шчыра баяцца за мяне, перажываюць, што я апынулася тут, у Кіеве, падчас рэвалюцыі. Яны шчыра лічаць, што на Майдане сабралася купка маргіналаў і значна большая колькасць неанацыстаў — агрэсіўных, якія закідвалі кактэйлямі молатава няшчасных праваахоўнікаў-беркутаўцаў. Маргіналаў, якія не маюць ні пачуцця самазахавання, ні пачуцця адказнасці за сваю краіну. У гэтым расейцаў цэлыя суткі пераконвае расійскае тэлебачанне.

Калі невідушчага пераконваць, што чорнае гэта белае, а белае — чорнае, рана ці позна ён у гэта паверыць. Дык вось, я яшчэ не ў натоўпе, пакуль я была толькі збоку. Я адсочваю сітуацыю па розных крыніцах. Я яшчэ не ўзбуджаная, не натхнёная Майданам знутры, так што пакуль не магу меркаваць аб'ектыўна. Я ведаю тых, хто там стаіць. Паверце — гэта не маргіналы, гэта не бандэраўцы, якіх нібыта звезлі з заходняй Украіны.

Гэта людзі, з якімі я маю зносіны блізка, а з некаторымі літаральна кожны дзень. Гэта Кіяўляне. Гэта мае калегі, якія без пафасу, без крыку кожны вечар\ дзень\ноч стаяць на Майдане — не па прафесійным абавязку — а па грамадзянскім. Маладыя, ім да 35, таленавітыя, з вышэйшай адукацыяй людзі.

Гэта мая сяброўка-пенсіянерка, інтэлігентная дама з трыма вышэйшымі адукацыямі. Гэта іншая мая сяброўка, галоўны бухгалтар фірмы. Гэта сям'я: бацька-бізнэсмен, сын-мастак і дачка — кіраўнік праекта. Вось гэтыя людзі — гэта 80 % Майдана.

Яны не імкнуліся выходзіць на вуліцу. Яны былі вымушаныя. Пачуццё ўласнай годнасці і адказнасці за сваю краіну, за сваіх дзяцей і за будучыню прымушае іх стаяць ужо амаль 2 месяцы, цяпер у 20-градусны мароз.

Не, не за еўраінтэграцыю або ўласныя амбіцыі. Яны выходзяць пасля першай жа зачысткі Беркута. Таму што ў іх свядомасці не ўкладаецца, што мірных грамадзян можна не проста біць — амаль забіваць, дабіваючы тых, хто ўпаў, нагамі. Што пажылую жанчыну, якая на каленях моліць, каб не забівалі яе састарэлага, ужо збітага да паўсмерці мужа — можна ўдарыць дубінкай па твары. Што студэнта можна распрануць дагала, пусціць праз строй людзей з дубінкамі, якія потым будуць разразаць яму нажом сакральные месца.

Яны не могуць і не хочуць так жыць. Яны не хочуць пакінуць такі свет сваім дзецям. І я паважаю іх.

Улада справакавала гэта, менавіта ўлада адказная за тое, што мірны мітынг, у выніку, стаў месцам бойкі. Улада, якая аддае злачынныя загады, якая галасуе за непрымальныя законы, якая прывозіць «цітушак»-гопнікаў з усёй краіны для правакацый. Удумайцеся — так майданаўцы абараняюць сваё права на свабоду ўжо з кактэйлямі Молатава і самаробнымі каламі, але супраць іх стаяць узброеныя і навучаныя людзі ў поўнай экіпіроўцы, якія першымі ўжылі гвалт да мірных грамадзян.

Украіна — не Расія. Тут такія выхадкі проста так не праходзяць.

І вось цяпер людзі Майдана абвешчаныя па-за законам. І я, ведаючы іх, разумею — вони не пійдут з Майдану. Так, ім страшна — таму што там б'юць, таму што ўжо страляюць і невядома, што можа быць праз некалькі гадзін, але вони не пійдут. Таму што яшчэ страшней думаць пра тое, што будзе заўтра з імі і з краінай — калі сёння яны адступяць.

І сёння я ўжо не застануся збоку. Так, матуля, ты ўмольвала мяне нікуды не лезці, даруй, мам, але сёння я буду там, побач са сваімі калегамі і сябрамі, побач з кіяўлянамі, нават калі таксама апынуся па-за законам. Але калі мяне там не будзе — я назаўжды страчу спакой.

Я заўсёды захаплялася ўменнем украінцаў не дазваляць уладзе барзець, а зараз захапляюся яшчэ больш, і я пайду на Майдан падтрымаць людзей, з якімі плячо ў плячо жыву тры гады. Людзей, настолькі гордых і неабыякавых да свайго ўласнага лёсу і да будучыні сваёй краіны.

Слава Украіне, Героям слава!

**Ганна Голанд, масквічка, якая працавала і ўжо жыве ў Кіеве**

ЯК БЫЛО

# ЯКІЯ ПЫТАНЬНІ НЕ ПРАПУСЬЦІЛА ЦЭНЗУРА

**«Парэзалі толькі мае пытаньні, а таксама значную частку адказаў Аляксандра Лукашэнкі, – распавёў Свабодзе дырэктар кампаніі БелаПАН Алесь Ліпай.**

21 студзеня Аляксандар Лукашэнка правёў у Палацы незалежнасці сустрэчу з кіраўнікамі 11 беларускіх мэдыяў. Сустрэча доўжылася амаль 5 гадзінаў. Беларускае тэлебачаньне паказала паўтарагадзінную трансьляцыю.

Алесь Ліпай распавёў Радыё Свабода, што не паказала БТ з сустрэчы прэзыдэнта з кіраўнікамі СМІ:

«Фактычна выразалі маё пытаньне, ці будуць падпадаць пад амністыю палітычныя зьняволеныя. Я канкрэтна прывёў прыклад Статкевіча і Бяляцкага і патлумачыў, чаму я лічу, што яны мусяць быць вызваленыя.

Не паказалі і ягоны адказ, дзе ён даў даручэньне Радзькову праверыць маю інфармацыю пра выплату за кошт грамадзкіх ахвяраваньняў стратаў, якія, паводле суду, былі нанесеныя Бяляцкім дзяржаве. І калі гэта сапраўды так, сказаў Лукашэнка, то трэба будзе чалавека вызваляць.

Таксама не паказалі адказ Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што Статкевіч можа проста напісаць прашэньне пра памілаваньне, не прызнаючы сваю віну, і ў адпаведнасьці зь дзейным парадкам гэтае пытаньне будзе разгледжана.

Даволі сур'ёзна парэзанае маё пытаньне пра беларускую мову. Я гаварыў пра тое, што яна набывае папулярнасьць цяпер у грамадзтве. І не дзякуючы дзяржаве, а дзякуючы грамадзкім ініцыятывам. Прывёў прыклады курсаў «Мова ці кава» і «Мова нанова». Прывёў прыклад, як зарэгістраваная арганізацыя – Таварыства беларускай мовы – мусіла зьбіраць ахвяраваньні, каб заплаціць за офіс. І прапанаваў ужо другі раз яму ўвесьці практыку дзяржаўных грантаў для арганізацый, якія спрыяюць разьвіцьцю беларускай мовы.

Фактычна ён даў даручэньне Радзькову разгледзець гэтае пытаньне. Сам сказаў, што становіцца ставіцца да беларускай мовы і хоча, каб на ёй гаварылі можа нават больш, чым я. Дарэчы, ягоны адказ на гэтае пытаньне таксама сур'ёзна парэзалі. А з таго, што паказалі, было даручэньне Радзькову разгледзець варыянт адкрыцьця курсаў беларускай мовы пры інстытутах і ўнівэрсытэтах».

Алесь Ліпай упэўнены, што ісьці на сустрэчу было варта:

«Трэба чалавеку гаварыць пра тое, што існуюць іншыя меркаваньні ў беларускім грамадзтве. Нягледзячы на тое, што Павал Якубовіч узьняў пытаньне пра палітычных зьняволеных, я гэтае пытаньне канкрэтызаваў, гаварыў пра канкрэтных людзей. Я атрымаў ад яго фактычна гарантыю таго, што пытаньне аб іх вызваленьні будзе разгледзенае. Я спадзяюся, што гэта сапраўды так. Бо ўтрымліваць іх за кратамі ня мае для яго палітычнага сэнсу, і нават шкодзіць беларускай дзяржаве."

На пытаньне, ці не хвалюецца ён, што ўдзел недзяржаўнага СМІ ўтакогакшталту мерапрыемстве будзе выкарыстаны беларускімі ўладамі ў прапагандысцкіх мэтах, Алесь Ліпай адказаў наступнае:

«Хутчэй я выкарыстаю ў прапагандысцкіх мэтах тое, што мяне парэзалі, што была цэнзура. А канкрэтна — у мэтах прапаганды праўды таго, што насамрэч адбылося і што мне насамрэч паабяцалі».

**www.svaboda.org/content/article/25237700.html**

ЗАРОБКІ

# ЗАРОБАК БЮДЖЭТНІКАЎ ДАСЯГНУЎ ДНА

**Новы год пачаўся з заяў пра неабходнае павышэнне заробкаў работнікам «хуткай дапамогі». Тэма аказалася настолькі актуальнай, што і віцебскія, і брэсцкія медыкі далучыліся да патрабаванняў аб павышэнні заработнай платы. Інтэрнэт-газета Naviny.by вырашыла разабрацца, чаму ў бюджэтнай сферы з'явіліся сацыяльныя хваляванні і дзе выйсце з сітуацыі.**

Года павышэння заробкаў бюджэтнікі не адчулі

У 2013 шмат гаварылася аб высокіх тэмпах росту заработнай платы ў краіне, аднак гэты працэс назіраўся не ва ўсіх сферах. У прамысловасці, будаўніцтве рэальная (з улікам інфляцыі) заработная плата сапраўды прыкметна вырасла.

«У рэальным выражэнні да студзеня-лістапада 2012 заработная плата (за аналагічны перыяд 2013 — БелаПАН) вырасла на 17 % (прагноз на 2013 г. — на 7,1 %), у тым ліку: у будаўніцтве — на 30,3 %; ў гандлі — на 20,8 %, у сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы — на 20,0 %, на транспарце і ў сувязі — на 19,8 %, у прамысловасці — на 15,3 %», — паведамляецца ў студзеньскім аглядзе Міністэрства эканомікі.

Пры гэтым высокія тэмпы росту заробкаў у пералічаных відах эканамічнай дзейнасці не былі падмацаваны адэкватным павышэннем прадукцыйнасці працы.

«Па-ранейшаму захоўваецца

*(працяг на стар. 4)*

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# ПАКУЛЬ ЗАРПЛАТЫ МЕСЯЦЦА Ў КАШАЛЬКІ…

**Беларускія ўлады зноў загаварылі аб дэнамінацыі нацыянальнай валюты. Відаць, ім крыўдна , што з нашых мільёнаў смяюцца замежныя турысты і параўноўваюць з Зімбабвэ.**




Аднак праводзіць дэнамінацыю чыноўнікі пакуль не спяшаюцца, так як умовы яшчэ не паспелі. Падобна на тое, нулі прыбяруць толькі тады, калі зарплата перастане змяшчацца ў кашальку.

Папярэдзім за паўгода

Як заявіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з кіраўнікамі беларускіх СМІ 21 студзеня, ужо ёсць надрукаваныя рублі і капейкі. Выглядаць новыя грошы будуць «нешта блізка да еўра», так як спецыялісты лічаць, што такі іх выгляд найбольш прымальны.

Але ўмовы для правядзення дэнамінацыі яшчэ не паспелі, лічыць Аляксандр Лукашэнка - не такая добрая сітуацыя ў эканоміцы , ёсць пэўныя трывогі ў насельніцтва.

«Нават калі ў гэтым годзе адчуем, што эканоміка стала нармальнай, вам за паўгода аб'явім, - паабяцаў кіраўнік дзяржавы, маючы на ўвазе аб'яву дэнамінацыі. - Будзем яшчэ выбіраць, тры ці чатыры нулі адкінуць».

Такім чынам, як было адзначана на сустрэчы, у выніку дэнамінацыі курс беларускага рубля можа ўсталявацца як адзін да аднаго або адзін да дзесяці ў дачыненні да даляра.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што аб правядзенні дэнамінацыі насельніцтву будзе абвешчана за паўгода да яе даты, а потым яшчэ на працягу года будуць паралельна хадзіць новыя і старыя купюры.

«Мы падумаем са спецыялістамі, калі гэты перыяд прыйдзе. Тут трэба быць вельмі асцярожнымі, - сказаў кіраўнік дзяржавы. - Мы гатовы ў любы момант правесці дэнамінацыю. Але ўсё-такі нават для гэтага тэхнічнага кроку павінны быць пэўныя ўмовы. Ці не павінна быць такая працэнтная стаўка, не павінна быць трывог на рынку, каб насельніцтва не хвалявалася. І ў эканоміцы каб не было крызісных з'яў» .

Лукашэнка нагадаў, што ў Беларусі ў свой час ужо праводзілася дэнамінацыя і баяцца гэтага працэсу не трэба.

«Але мы не гатовыя пакуль да гэтага. І не столькі тыя органы, якія правядуць гэтую дэнамінацыю , колькі насельніцтва і эканоміка, - сказаў кіраўнік дзяржавы. - Я думаю, што пройдзем гэты складаны, крызісны этап. І нават калі ў гэтым годзе мы адчуем, што эканоміка цвёрда стане на рэйкі нармальнага руху, мы за паўгода аб'явім народу, што будзем праводзіць дэнамінацыю».

«Гарантую! Падманваць не буду», - сказаў Лукашэнка.

Незаслужаная ўвага

Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску Вадзім Іосуб не бачыць вострай неабходнасці ў дэнамінацыі. На яго думку, увага да гэтай тэмы незаслужаная.

«Дэнамінацыя - гэта тэхнічнае мерапрыемства. Калі на купюрах і на цэнніках шмат нулёў, гэта стварае пэўныя нязручнасці. У першую чаргу для прыезджых, якія могуць блытацца ў гэтых нулях. На рост эканомікі, яе развіццё і ўстойлівасць гэта не ўплывае абсалютна. Нават нейкія асцярогі насельніцтва ў тым, што пры дэнамінацыі будзе акругленне у большы бок, цэны вырастуць, яны таксама некалькі перабольшаныя», - мяркуе эксперт.

У выпадку дэнамінацыі цэны ўвогуле не вырастуць альбо падвысіцца максімум на паўпрацэнта, кажа Вадзім Іосуб.

«У нас кожны месяц цэны вырастаюць больш», - дадае фінансавы аналітык.

Эканаміст Сяргей Чалы таксама бачыць асноўную пагрозу ад дэнамінацыі ў невялікім росце цэн і не бачыць асаблівага сэнсу ў ёй акрамя як для зручнасці рахунку.

Падобнага меркавання, дарэчы, прытрымліваецца і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова. У прыватнасці, у маі 2012 года яна заяўляла, што не бачыць сэнсу ў дэнамінацыі, пакуль «яшчэ ў кампутары месяцца ўсе нулі, грашовыя паперы з многімі нулямі яшчэ месяцца ў кашальку».

Вадзім Іосуб мяркуе, што дэнамінацыю варта праводзіць у выпадку, калі гадавая інфляцыя на працягу некалькіх гадоў будзе менш за 10 %.

«Маючы высокую інфляцыю, не варта праводзіць дэнамінацыю, так як праз некалькі гадоў апынецца, што яе трэба праводзіць паўторна», - кажа эксперт.

*(скарочана)*

**Аляксандр Ярашэвіч**

ЗАРОБКІ

*(пачатак на стар. 3)*

значны разрыў у тэмпах росту прадукцыйнасці працы і рэальнай заработнай платы — 14,9 працэнтнага пункта ў студзені-лістападзе 2013. Аперажальны рост рэальнай заработнай платы ў дачыненні да прадукцыйнасці працы забяспечваецца, але прыносіць урон фінансавай эфектыўнасці прадпрыемстваў», — тлумачаць спецыялісты Мінэканомікі.

А вось павялічваць зарплаты бюджэтнікам «на шкоду» казне дзяржава не стала. Рэальная заработная плата бюджэтнікаў у студзені-лістападзе 2013 у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года вырасла незаўважна: у дактароў — на 3,6 %, у настаўнікаў — на 2,7 %.

Улічваючы, што рост заробкаў у рэальным сектары істотна пераўзыходзіў тэмпы павелічэння заробкаў бюджэтнікаў, даходы апошніх на фоне іншых работнікаў зніжаліся. У адносінах да сярэдняй зарплаты ў краіне даходы бюджэтнікаў дасягнулі «дна», калі прааналізаваць сітуацыю за апошнія гады.

«Суадносіны зарплаты ў бюджэтнай сферы да яе ўзроўню ў цэлым па эканоміцы маюць тэндэнцыю да зніжэння: у 2011 годзе — 83,9 %, у 2012 годзе — 80,9 %, у студзені-лістападзе 2013г. — 74,5 %», - паведамляецца ў апошнім аглядзе Міністэрства эканомікі.

Няпрофільныя выдаткі высмоктваюць грошы з казны

Праблема заключаецца ў тым, што для павышэння заробкаў бюджэтнікаў грошай у казне … няма. Бюджэт на 2014-ы, прыняты беларускіх парламентам у канцы снежня, не прадугледжвае павышэння даходаў работнікаў бюджэтнай сферы.

«Бюджэт на бягучы год прадугледжвае, што рост намінальнай заработнай платы бюджэтнікаў магчымы толькі ў ўзроўні інфляцыі, а рост рэальнай зарплаты — толькі ў выпадку скарачэння колькасці бюджэтных арганізацый і бюджэтнікаў», — канстатуе эканаміст даследчага цэнтра ІПМ Глеб Шымановіч.

Намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, выступаючы ў парламенце восенню, адзначаў: крытычна важна, каб сярэдні заробак у бюджэтным сектары быў не ніжэйшы за 80 % ад сярэдняй зарплаты па краіне. Інакш пачынаюцца неспрыяльныя працэсы, звязаныя з адтокам кадраў з бюджэтнай сферы.

Тым не менш, да гэтага часу гэта суадносіны, як мы адзначалі вышэй, ужо апусцілася ніжэй за 75 %. Разам з тым, Мінфін канстатуе, што грошай у казне для павышэння рэальнага заробку бюджэтнікам на 2014 год не прадугледжана.

*(скарочана)*

**Дзмітрый Заяц**
**БЕЛАПАН**

ПОГЛЯД

# НЕТ ПРОБЛЕМ

**Пресс-конференция Лукашенко вновь прошла в духе «петух прокукарекал, а там хоть не рассветай».**

По крайней мере, так выглядели теле- и газетные версии встречи главы государства с главными редакторами. Серьезных проблем в стране нет, твердо идем своей дорогой, и даже мама президента говорит, что жить стало лучше…

Честно говоря, мне тоже лучше. Например, с годами научилась говорить любому дураку, что он дурак. Хотя моя мама учила, что делать этого не нужно, поскольку такое поведение грубое и нетактичное. Однако, как выяснилось, в долгосрочной перспективе это умение очень облегчает жизнь.

А уж насколько лучше стало жить человечество! Телефон сейчас может быть не только в каждом доме, но и в каждом кармане, давно нет надобности устраивать постирушки в проруби, да и в сорок лет никто не чувствует себя глубоким стариком, каковыми в этом возрасте были наши предки.

На том, собственно, мир и держится. Потому и не погибли «хомо сапиенс» как биологический вид, что научились делать так, чтобы с годами и жить, и умирать становилось лучше, комфортнее. Мы все вместе этому научились. Хотя некоторые чудаки до сих пор зовут людей в натуральное хозяйство и призывают лечить болезни не с помощью врачей, а с помощью молитв.

Дети растут, солнце встает, зима сменяет осень, а девяностую весну своей жизни обязательно ценишь больше, чем первую… Нечем тут хвастаться.

Повод для радости - это когда какую-то проблему ты, наконец, решил. Но Лукашенко важно другое - прокукарекать, что проблем нет.

Дома строятся. Хотя это не значит, что мы решили или знаем, как решить жилищную проблему и сделать квартиры доступными.

Модернизация идет полным ходом. Но модернизированные предприятия работают ничуть не лучше, чем их коллеги-старички, оказываются в еще большей финансовой яме, в еще больших долгах.

Спорт этот несчастный… Лукашенко своими руками много лет создавал беспрецедентную систему поддержки спорта. В итоге слово «спортсмен» скоро войдет в наш лексикон как уничижительно-ругательное.

Белорусы не говорят по-белорусски – подождем, может, рассосется. Народ в секстиллионах считать не научится – уберем с денег лишние нули, тем более, что не впервой. Что будет со страной через 30 лет? Что-то будет…

Нет проблем! Не должно быть! Не рассветай!

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

РЭХА МАЙДАНА

# БАРАНІЦЬ СВАБОДУ ТРЭБА ЎВЕСЬ ЧАС

**Украінцы, змагаючыся на Майдане за сваю свабоду, за еўрапейскі шлях развіцця краіны, падстаўляюць плячо і беларусам, паказваючы прыклад адстойвання сваіх правоў і свабод, - лічыць старшыня Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч:**

- Не бывае ў палітыцы чагосьці, што падае бясконца з неба, - без самаахвярнасці, без барацьбы за гэта. Нават у дэмакратычных краінах бараніць свабоду трэба ўвесь час. Таму што заўсёды ёсць тэндэнцыі да ўзмацнення, да жорсткасці ўлады, да абмежавання дэмакратыі. І ўкраінцы паказваюць вельмі добры прыклад гэтым шырокім народным рухам. Людзі і старэйшыя, і маладзейшыя кажуць увесь час гэтае слова, можа я не вельмі яго люблю, але яно адпавядае: мы не хочам быць быдлам.

Таму значнасць апошніх падзей ў Кіеве у тым, што ўкраінскі народ дэманструе, што ўжо ніколі не будзе маўклівым натоўпам, якім нас усіх спрабавалі зрабіць у савецкія часы, - упэўнены Аляксандр Мілінкевіч.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.01.2014 у 18.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.